# ПОЧИНАЮТЬСѦ
# Е҆ПИⷭ҇ТОЛЫ СВЕ
# ТОГО СЛАВНОГО И҆ ВЕ
# РХОВНАГО ВНЕБЕ НА
# ВЧЕНАГО А҆ПОⷭ҇ТОЛА
# ХРⷭ҇ТВА ПАВЛА





АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ордэна Дружбы народаў
Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР
Цэнтральная навуковая бібліятэка
імя Якуба Коласа АН БССР
Кніжная палата СССР

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

## жыццё і дзейнасць

ПАКАЗАЛЬНІК ЛІТАРАТУРЫ

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1990

ББК 91.9 : 7
Ф 84

Книга представляет собой аннотированный библиографический указатель отечественной и иностранной литературы, посвященной жизни и деятельности выдающегося белорусского первопечатника Франциска Скорины. По сравнению с предыдущим аналогичным изданием (М., 1978) объем библиографической информации увеличен почти вдвое. Приведены источники, опубликованные в 1539—1989 гг.

Рассчитана на филологов, историков, философов, преподавателей, студентов и всех интересующихся отечественной историей, восточнославянским книгопечатанием.

Складальнікі:
д-р гіст. навук Я. Л. Неміроўскі, Л. А. Осіпчык

Рэдактар
д-р філал. навук А. І. Мальдзіс

Рэцэнзенты:
заг. аддзела ЦНБ АН БССР Л. І. Збралевіч,
канд. гіст. навук Г. В. Кісялёў

$\text{Ф}\frac{4406010000-082}{\text{М}316(03)-90}138-90$

ISBN 5-343-00438-5



## ПРАДМОВА

Жыццё і дзейнасць вялікага беларускага асветніка Францыска Скарыны даўно прыцягвае ўвагу гісторыкаў, філолагаў, мастацтвазнаўцаў, кнігазнаўцаў. Прысвечаная яму літаратура багатая і разнапланавая. Сярод шматлікіх публікацый, колькасць якіх набліжаецца да 2900 назваў, ёсць грунтоўныя манаграфічныя даследаванні, юбілейныя зборнікі навуковых прац, зборнікі гістарычных крыніц, паказальнікі літаратуры, артыкулы, у якіх трактуюцца вузкія, спецыяльныя пытанні. Побач з тым у паказальніку даволі многа папулярнай і «юбілейнай» літаратуры, якая таксама мае каштоўнасць для даследчыкаў.

Бібліяграфія беларускага першадрукара пачыналася з уліку і апісання выданняў Францыска Скарыны. Уражваюць даследаванні ў гэтай галіне, звязаныя з імёнамі такіх кнігаапісальнікаў, як В. С. Сопікаў, П. І. Кеппен, П. М. Строеў, І. П. Сахараў, В. М. Ундольскі, І. П. Каратаеў. У нашыя дні рэгістрацыя і апісанне скарынаўскіх кніг былі працягнуты з улікам асобных захаваных экземпляраў [1].

Першыя паказальнікі літаратуры пра Скарыну ўзніклі ў выглядзе параўнальна невялікіх спісаў, якія завяршалі бібліяграфічнае апісанне яго выданняў у працах І. П. Сахарава [2] і І. П. Каратаева [3]. Крытычны, поўны і змястоўны агляд літаратуры па данаму пытанню папярэднічаў вядомай манаграфіі П. У. Уладзімірава [4]. Са спісам літаратуры, які налічвае каля 80 пазіцый, выйшаў артыкул А. Ю. Купалава на старонках «Рускага біяграфічнага слоўніка» [5].

Вельмі насычанае бібліяграфічным матэрыялам гістарыяграфічнае даследаванне «Scoriniana» У. І. Пічэты, апублікаванае на беларускай і рускай мовах [6]. Гэтая выдатная праца за-

[1] Францыск Скарына: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988.

[2] Сахаров И. П. Обозрение славяно-русской библиографии. Спб., 1849.

[3] Каратаев И. П. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. Спб., 1878; 2-е изд. Спб., 1883.

[4] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его пер., печатные изд. и язык. Спб., 1888.

[5] Русский биографический словарь. Спб., 1904. Т. 18. С. 600—603.

[6] Пічэта У. І. Scoriniana, 1776—1926 гг. // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 284—327; Ён жа. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. 1961. С. 730—788.

хоўвае сваё значэнне і да сённяшняга дня. Даследаванне мае падрадковыя бібліяграфічныя заўвагі, колькасць якіх перавышае 150.

Праца У. І. Пічэты была з поспехам працягнута А. В. Флароўскім, які давёў гістарыяграфію па данаму пытанню да 1965 г. [7]

Прыкладна той жа перыяд (1926—1966), што і ў артыкуле А. В. Флароўскага, ахоплены ў «Новай скарыніяне» В. Тумаша [8]. Праца гэтая напісана з нацыяналістычных, а часам і антысавецкіх пазіцый. Не можа быць прызнана высокім і яе навуковае значэнне.

Спісы літаратуры, прысвечанай Францыску Скарыне, мы можам знайсці і ў бібліяграфічных працах агульнага характару, такіх, як «Слоўнікавы паказальнік па кнігазнаўству А. В. Мезьер» (1924—1934), шматтомная праца М. А. Васілеўскай «Беларусь у друку...» (1983—1985), бібліяграфічны слоўнік украінскіх пісьменнікаў (1960. Т. 1) і інш.

Першай спробай стварэння самастойнага бібліяграфічнага даведніка, прысвечанага жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны, быў паказальнік В. Тумаша [9], дзе ўлічана літаратура за 1492—1967 гг. У ім адлюстраваны акты, скарынаўскія выданні, рукапісныя копіі гэтых выданняў і, нарэшце, скарыназнаўчая літаратура. Завяршае яго раздзел «Францыск Скарына ў літаратуры і мастацтве». Усяго ў працы 1176 пазіцый. Яна адыграла пэўную ролю ў першасным уліку літаратуры пра жыццё і дзейнасць вялікага беларускага першадрукара. Але разам з тым ёй уласцівы сур'ёзныя недахопы. Удзельная вага публікацый у савецкім друку штучна заніжана. У той жа час апісаны нават невялікія нататкі ў эміграцкім друку і газетах, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі, акупіраванай фашысцкімі захопнікамі. Паказальнік, складзены В. Тумашам, не можа задаволіць нас і з фармальнага боку — у ім шмат памылак і пропускаў. У бібліяграфічных апісаннях указаны толькі старонкі, на якіх згадана імя Скарыны. Да таго ж чытач пазбаўлены магчымасці меркаваць пра агульны аб'ём тых або іншых кніг і артыкулаў і ў пэўнай ступені пра іх значнасць.

У нашай краіне першай прыступкай да ўказанай тэмы стаў паказальнік Дангуоле Гінейцене «Францыск Скарына і Літва», выдадзены Кніжнай палатай Літоўскай ССР [10]. У ім апісаны 208 кніг і артыкулаў. Апісанне кніг выдзелена ў асобны раздзел,

---

[7] Флароўскі А. В. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 389—433.

[8] Тумаш В. Scoriniana nova, 1926—1966 // Scoriniana: Угодкавы зб. Мюнхен, 1970. С. 145—180.

[9] Тумаш В. Бібліяграфія Скарыніяны, 1492—1967 // Scoriniana: Угодкавы зб. Мюнхен, 1970. С. 181—268.

[10] Gineitienė D. Pranciškus Skorina ir Lietuva: Bibliografinė rodyklė. Vilnius, 1975.

дзе налічваюцца 72 пазіцыі. Бібліяграфічная культура гэтага выдання высокая.

Працу Д. Гінейцене, лакальную па свайму характару, дапаўняе паказальнік «Гісторыя літоўскай кнігі. 1659—1982», складзены Вандай Тумялене і Ніёле Буркшайцене і выдадзены Дзяржаўнай рэспубліканскай бібліятэкай Літоўскай ССР [11].

Найбольшай паўнатой сярод выдадзеных на сённяшні дзень паказальнікаў літаратуры пра жыццё і дзейнасць вялікага беларускага асветніка вылучаецца праца Я. Л. Неміроўскага [12]. У ёй два раздзелы. У першым апісаны 42 выданні Ф. Скарыны, у другім — кнігі і артыкулы пра яго за 1541—1977 гг. Бібліяграфічныя апісанні кніг і артыкулаў размешчаны тут у храналагічным парадку — у адпаведнасці з датай публікацыі. Усяго ўказана 1429 назваў, не ўлічваючы рэцэнзій, апісанні якіх змешчаны пад парадкавымі нумарамі выданняў, што рэцэнзуюцца. Да працы дададзены імянны і сістэматычны паказальнікі. Бібліяграфія Я. Л. Неміроўскага атрымала станоўчую ацэнку рэцэнзентаў [13], хаця быў і крытычны водгук [14].

У спецыяльнай галіне ўказаную працу значна дапаўняе анатаваны паказальнік твораў літаратуры і мастацтва, прысвечаных першадрукару. Ён складзены В. Н. Дышыневіч і выдадзены Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна [15]. У ім ёсць паказальнік аўтараў кніг, артыкулаў і выказванняў пра Скарыну і імянны паказальнік мастакоў, рэжысёраў, акцёраў, пісьменнікаў, фатографаў, рэдактараў.

У даным паказальніку літаратуры выкарыстаны бібліяграфічныя матэрыялы з прац Я. Л. Неміроўскага і В. Н. Дышыневіч, а таксама з бібліяграфічнай картатэкі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Апісанне выданняў Францыска Скарыны складальнікі вырашылі не даваць, бо такі матэрыял чытач можа лёгка знайсці ў згаданым вышэй зборніку дакументаў і матэрыялаў «Францыск Скарына», а таксама

---

[11] Tumelienė V., Burkšaitienė N. Lietuvos knygų istorija: Literatūros rodyklė 1659—1982. Vilnius, 1982.

[12] Немировский Е. Л. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины: Описание изд. и указ. лит., 1517—1977. М., 1978.

[13] Ботвинник М. Б. // Неман. 1979. № 10. С. 186—187; Голенченко Г. Я. Итоги Скорины // Белороссика. Мн., 1980. С. 113—116; Исаевич Я. Д. Указатель, посвященный Ф. Скорине // Сов. библиография. 1979. № 5. С. 74—76; Мыльников А. С. Франциск Скорина, его дни и труды // Кн. обозрение. 1978. 24 нояб.; Шматаў В. Ф. Пра Францыска Скарыну // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1979. № 4. С. 43—44; Шматаў В. Ф. Сын горада Полацка // Вяч. Мінск 1979. 21 мая; Шматаў В. Ф. Усё пра Скарыну // Голас Радзімы. 1979. 16 жн. С. 6; Sielicki F. // Studia o książce. 1980. T. 10. S. 235—236.

[14] Dingley J. Some recent soviet publications on Prancisk Skaryna // The Journal of Byelorus. Studies. 1980. Vol. 4, N 3—4. P. 148—154.

[15] Дышиневич В. Н. Франциску Скорине посвященные: Аннотированный указ. произведений лит. и искусства. Мн., 1982.

ў зводным каталогу, выдадзеным у 1986 г.[16] Храналагічныя рамкі публікацый, улічаных складальнікамі,— 1539—1989 гг. (за 1989 г. указаны толькі працы, якія паспелі выйсці да здачы рукапісу ў вытворчасць).

Кнігі, часопісныя і газетныя артыкулы апісаны ў паказальніку ў адпаведнасці з ДАСТам 7. 1—84 «Бібліяграфічнае апісанне твораў друку». Калі апісанне не раскрывае зместу публікацыі, яно суправаджаецца кароткай анатацыяй, дзе ўказваецца; у сувязі з чым і на якіх старонках згадваецца Францыск Скарына. Бібліяграфічны матэрыял пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці. У межах кожнага года апісанні размешчаны па алфавіту прозвішчаў аўтараў і назваў прац. Спачатку ўказваюцца працы на мовах народаў, якія карыстаюцца кірылаўскім алфавітам (беларускай, рускай, украінскай, балгарскай і інш.), потым — на мовах народаў, у якіх прыняты лацінскі алфавіт.

У сувязі з тым што складальнікі імкнуліся да паўнаты ў ахопе матэрыялу, навуковая важнасць і інфармацыйная значнасць пазіцый, уключаных у паказальнік, нераўназначныя. Побач з фундаментальнымі працамі, цалкам або часткова прысвечанымі Ф. Скарыне, у даведнік уключаны папулярныя выданні, падручнікі, каталогі выставак, праспекты, рэкламныя плакаты, нататкі, у якіх гаворыцца пра жыццё і дзейнасць беларускага першадрукара ці выдадзеныя ім кнігі. Упершыню прыводзяцца звесткі пра скарыназнаўчыя публікацыі ў беларускіх эмігранцкіх выданнях. Некаторыя з іх вызначаюцца антысавецкай накіраванасцю. Але прыведзены ў гэтых публікацыях фактычны матэрыял мае пэўную навуковую каштоўнасць. Не ўлічаны ў паказальніку матэрыялы, змешчаныя ў беларускіх часопісах і газетах, што выходзілі на тэрыторыі, акупіраванай фашысцкімі захопнікамі.

Як і ўсякая бібліяграфічная праца, дадзены паказальнік літаратуры не можа лічыцца вычарпальным. Усе дапаўненні будуць з удзячнасцю прыняты складальнікамі.

[16] Неміроўскі Я. Л. Выданні Францыска Скарыны: Зводны каталог і апісанне // Францыск Скарына. Мн., 1988. С. 205—310; Галенчанка Г. Я. Старадрукаваныя кірылічныя выданні 16—18 ст. // Кніга Беларусі: Зводны каталог. Мн., 1986. С. 37—55.





## 1539

1. **Albonesi T. A.** Introductio in Chaldaicam linquam, Syricam, atque Armenicam et decem alias linguas. Pavia, 1539.

С. 52: У лацінскай транслітарацыі пададзены 16 радкоў з другой Кнігі Царстваў у перакладзе Ф. Скарыны.

## 1541

2. **Hayek V.** (z Liboczan). O nesstiastne przihodie, kteráž gse stala skrze ohen [!] w Menssim Miestie Pražském, a na Hradie Swatého Wacslawa y na Hradczanech, etc. Praha, 1541. 7 l.

Згадка пра гібель у час пажару ў Празе 2 чэрвеня 1541 г. «хлопчыка Францішка, сына нябожчыка доктара Руса».

Тое ж. Praha, 1614. 12 l.

Тое ж. Beckovský J. F. Poselkyně starých přibehůvčeských. Praha, 1879. Dil. 2. S. 100.

## 1559

3. **Vergerio P. P.** A gl'inquisitori che sono per l'Italia. Del Catalogo di libri eretici, stampato in Roma, nell'Anno presente MDLIX. Tubingae, 1559.

Л. 47: Згадка пра друкаваную па «рускай» мове Біблію, якую аўтар бачыў у Вільні ў 1556 г.

Тое ж. На лац. мове. Vergerio P. P. Postremus catalogus haereticorum Romae conflatus, 1559, continens alios quatuor catalogos qui post decennium in Italia nec non eos omnes, qui in Gallia et Flandria post renatum Evangelium fuerunt editi. Pfortzheimii, 1560.

## 1574

4. **Nowy** Testament znowu przełożony, a na wielu mieyscach za pewnemi dowodami od przysad przez Simona Budnego oczyściony y krótkiemi przypiskami po kraioch obiaśniony. Łosk, 1574.

C. 38, 604—605, 929, 939: Згадкі пра выданні Ф. Скарыны, выпіскі з яго кніг.

Прадмову С. Буднага гл. таксама ў кн.: Merczyng H. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913. S. 110—178.

### 1576

5. **Budny S.** O przednieyszych wiary christiańskiej artikulech, to jest o Bogu iedynem, o Synu iego y o Duchu Swiętem. Łosk, 1576. [8], 24, [168], 193—200 s.

Згадка пра Біблію Ф. Скарыны.

### 1622

6. **Sielawa A. A.** Antelenchus, to iest odpis na skrypt uszczypliwy zakonników cerkwie odstępney S. Ducha, Elenchus nazwany. Wilna, 1622. 66 s.

C. 53: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. Архив Юго-Западной России. Киев, 1914. Ч. 1, т. 8, вып. 1. С. 717.

### 1625

7. **Starowolski Sz.** Scriptorum Polonicorum Ekatontas, seu centum illustrium Poloniae Scriptorum elogiae et vitae. Francoforti, 1625. (2), 132, (2) p.

C. 59: Пра выданні Ф. Скарыны, якія аўтар бачыў «у Маскве і ўсюды на Русі».

Тое ж. Venetiis, 1627. P. 102.

Тое ж. Simonis Starovolscii Tractatus tres. I. Polonia. II Sarmatiae bellatores. III Scriptorum Polonicorum 'Εκατοντάς seu Centum illustrium Poloniae scriptorum elogia et vitae. Editio nova. Wratislaviae, 1734. P. 55—56.

Тое ж. На польск. мове. Starowolski Sz. Cetnik pisarzów polskich albo pochwały i żywoty stu najznakomitszych pisarzów polskich. Kraków, 1970. S. 127, 289.

### 1723

8. **Le Long J.** Bibliotheca sacra in binos syllabos distincta... T. 1. Parisiis, 1723. XXVI, 589 p.

C. 436: Пра славянскія кнігі, якія Ш. Старавольскі бачыў у Маскве. С. 440: Пра «рускую Біблію», якую П. Верджэрыё бачыў у Вільні.

### 1729

9. **Kohl J. P.** Introductio in historiam et rem literariam slavorum imprimis sacram, sive historia critica versionum slavonicarum maxime insignium, nimirum codicis sacri et Ephremi Syri duobus libris absoluta. Altonaviae, 1729. 418 p.

С. 164, 170: Пра сведчанне П. Верджэрыё, які бачыў у Вільні «Біблію на рускай мове».

1740

10. **Hoffmann J. D.** De typographiis earumque initiis et incrementis in Regno Poloniae et Magno Ducatu Lithuaniae... Dantisci, 1740. (8), 71 p.

С. 5: Пра славянскія кнігі, якія Ш. Старавольскі бачыў у Маскве.

Тое ж. Gedani, 1753.

1744

11. **Ringeltaube S. W.** Gründliche Nachricht von polnischen Bibeln, von derenmancherley Uebersetzungen und Urherbern nebst einigen darzugehörigen Merkwürdigkeiten aus dem Polnischen Weltlichen, Kirchen- und Reformations — Geschichten. Danzig, 1744. (32), 348, (20) S.

С. 170: Пра выкарыстанне С. Будным перакладаў Ф. Скарыны.

1776

12. **Bacmeister J. V.** Essai sur la Bibliothèque et le Cabinet de curiositée et d'histoire naturelle de l'Academie des sciences de Saint Petersbourg. Spb., 1776. 254 p.

С. 91—96: Пра выданні Ф. Скарыны. С. 102: Апостал. Вільня, 1517 [?].

Тое ж. На ням. мове. Bacmeister J. V. Versuch über die Bibliothek und das Naturalien- und Kunst-Kabinet der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften in St. Petersburg. Spb., 1777. 154 S.

С. 53—54: Пяцікніжжа з Бібліі Ф. Скарыны. С. 58: Апостал. Вільня, 1517 [?].

Тое ж. На рус. мове. Бакмейстер И. Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной Санктпетербургской императорской Академии наук. Спб., 1799. 191 с.

С. 65—69: Пяцікніжжа з Бібліі Ф. Скарыны. Параўнанне тэкстаў Скарыны з Бібліямі 1663 і 1751 гг. С. 67, 73: Апостал. Вільня, 1517 [?].

Тое ж. Спб., 1780. С. 65—69, 73. Тыт. выд.

1777

13. **Michaelis J. D.** Einleitung in die göttlichen Schriften des Neuen Bundes. 1 Theil. 3 Ausg. Göttingen, 1777. [4], 768 S.

С. 447—452: Раздз. «Von der Slavischen oder Russischen Uebersetzung». Лісты Г. А. Палетыкі са звесткамі пра экземпляр

Пяцікніжжа Маісея Ф. Скарыны з Бібліятэкі Акадэміі навук у Пецярбургу.

Тое ж. 4 Ausg. Göttingen, 1788. S. 513—519.

**1780**

14. **Eichhorn J. G.** Einleitung ins Alte Testament. 1 Theil. Leipzig, 1780. [4], 602 S.

С. 561—562: Раздз. «Slavische Uebersetzung». У тым ліку пра пражскае выданне Пяцікніжжа 1519 г. Ф. Скарыны.

Тое ж. 2 vermehrte und verbesserte Ausgabe. Reutlingen, 1790.

**1783**

15. **Алексеев П. А.** Рассмотрение славянской старопечатной книги Апостола, которая справлена доктором Франциском Скориною из Полоцка, напечатана в Вильне 1525 г. в четверть листа // Опыт трудов Вольного рос. собрания при имп. Моск. ун-те. 1783. Ч. 6. С. 195—204.

16. **Штритер И.-Г.** Описание первого издания в печать и перевода на российский язык священной Библии в 1517—1519 годах // Опыт трудов Вольного рос. собрания при имп. Моск. ун-те. 1783. Ч. 6. С. 177—194.

17. **Bacmeister H. L. Ch.** Opyt trudow woljnagho Rossijskagho Sobranija // Russische Bibliothek zur Kenntniss des gegenwärtigen zustandes der Literatur in Russland. 1783. Bd. 8, Stück 5—6. S. 98—104.

С. 102—104: Пра артыкулы Штрытэра і Аляксеева.

**1786**

18. [**Аб'ява** аб продажы Кніг Царстваў 1518 г. у кнігагандляра Аўчыннікава] // Санктпетербургские ведомости. 1786. 23 янв. № 7. С. 37.

Тое ж // Там жа. 3 февр. № 10. С. 111.

19. [**Аб'ява** аб продажы канвалюта, які ўключаў тры Кнігі Царстваў, Еклесіяст, Кнігу Ісуса Сірахава, Кнігу Прамудрасці божай, Кнігу Іова і ўрывак з Псалтыра, у кнігагандляра І. Вогака] // Санктпетербургские ведомости. 1786. 3 февр. № 10. С. 111.

Тое ж // Там жа. 20 февр. № 15. С. 173; 7 апр. № 28. С. 328; 10 апр. № 29. С. 340; 14 апр. № 30. С. 352.

20. **Bacmeister H. L. Ch.** Vermischte Nachrichten von St. Petersburg // Russische Bibliothek, zur Kenntniss der gegenwärtigen Zustandes der Literatur in Russland. 1786. Bd. 10. S. 317—322.

С. 320—321: Аб продажы ў Пецярбургу асобных пражскіх выданняў Ф. Скарыны.

**1791**

21. **Karjavine Ph.** Remarques sur la langue russienne et sur son alphabet. Spb., 1791. [210] p.

С. [133]: Пра Біблію, надрукаваную Ф. Скарынам у Празе ў 1517—1519 гг.

**1795**

22. **Durich F.** Bibliotheca Slavica antiquissimae dialecti communis et ecclesiasticae universae Slavorum gentis. Vol. 1. Vindobonae, 1795. XXXXVIII, 396, [4] p.

С. XXXI: Пра Пяцікніжжа Маісея, выдадзенае Ф. Скарынам у Празе ў 1519 г.

**1796**

23. **Dobrovsky J.** Literarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der Böhm[ischen] Gesellschaft der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland. Prag, 1796. 172 S.

С. 101—108: Пра экземпляр Біблії 1517—1519 гг. Пецярбургскай Акадэміі навук; пра месца друкавання Біблії; пра віленскія выданні Ф. Скарыны (Апостал і Малая падарожная кніжка).

**1802**

24. **Schlözer A. L.** Нестор. Russische Annalen in ihrer Slavonischen Grundsprache verglichen, übersetzt und erklärt. 1 Theil. Göttingen, 1802. XXIV, 120 S.

С. 86: Пра славянскія друкарні ў Вільні і Празе. С. 107: Пра Біблію ў перакладзе Ф. Скарыны.

Тое ж. На рус. мове. Шлёцер А. Л. Нестор. Русские летописи на древнеславянском языке. Ч. 1. Спб., 1809, 15, XLI, 175 (кірылаўскія лічбы), 475 с.

С. 134 (кірылаўская пагінацыя): Пра славянскія друкарні ў Вільні і Празе («что пред Варшавою»).

**1806**

25. **Болховитинов Е. А.** Иоанн Федоров, диакон, и Петр Тимофеев прозванием Мстиславец: Продолжение нового опыта исторического словаря о российских писателях // Друг просвещения: Журн. литературы, науки и художеств. 1806. Ч. 4. Нояб. № 11. С. 147—169.— Аўтар не ўказаны.

С. 149: Пра Пяцікніжжа Маісея, выдадзенае Францыскам Скарынам у 1519 г. «в Праге (пред Варшавою)» [?].

26. **Dobrowsky J.** Alte slawische Handschriften // Dobrowsky J. Slavin. Beiträge zur Kenntniss der slawischen Literatur, Sprachkunde und Alterthümer, nach allen Mundarten. Prag, 1806. S. 265—287.

С. 269: Пра выданні Ф. Скарыны.

Тое ж. Dobrowsky's Slawin. Botschaft aus Böhmen an alle slawischen Völker oder Beiträge zu ihrer Charakteristik, zur Kenntniss ihrer Mythologie, ihrer Geschichte und Alterthümer, ihrer Literatur und ihrer Sprachkunde nach allen Mundarten. Zweite... Auflage. Prag, 1833. S. 149.

27. **Dobrowsky J.** Verschiedene Bemerkungen über die slavenische Uebersetzung des alten Testament // Dobrowsky J. Slavin. Beiträge zur Kenntniss der slawischen Literatur, Sprachkunde und Alterthümer nach allen Mundarten. Prag, 1806. S. 321—361.

С. 336: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. Dobrowsky's Slawin. Botschaft aus Böhmen an alle slawischen Völker oder Beiträge zu ihrer Charakteristik, zur Kenntniss ihrer Mythologie, ihrer Geschichte und Alterthümer, ihrer Literatur und ihrer Sprachkunde nach allen Mundarten. Zweite... Auflage. Prag, 1833. S. 223.

## 1808

28. **Ueber** die Einführung und den Fortgang der Buchdruckerkunst in Russland // Janus oder Russische Papiere (Riga). 1808. H. 1. S. 20—40.

С. 21: Апостал, надрукаваны ў 1517 г. [?] у Вільні, і Пяцікніжжа Маісея, надрукаванае ў 1519 г. у Празе каля Варшавы [?].

## 1811

29. **Калайдович К. Ф.** Известия о древностях славяно-русских и об Игнатии Ферапонтовиче Ферапонтове, первом собирателе оных. М., 1811. 21 с.

С. 17—19: Выданні Ф. Скарыны ў зборах Ф. Г. Баўзе, Ф. А. Талстога, у Архіве Калегіі замежных спраў.

## 1813

30. **Болховитинов Е. А.** О славяно-русских типографиях // Вестн. Европы. 1813. Ч. 70, № 14. С. 104—129.— Подпіс: Е. [Евгений, митр.].

31. **Калайдович К. Ф.** Иоанн Федоров, первый московский типографщик // Вестн. Европы. 1813. Ч. 71, № 18. С. 93—123.

С. 121—122: Пра Ф. Скарыну. Экземпляр Біблії 1517—1519 гг. У Архіве Калегіі замежных спраў, а таксама ў зборах Ф. А. Талстога, Ф. Г. Баўзе і інш.

32. **Сопиков В. С.** Опыт российской библиографии, или полный словарь сочинений и переводов, напечатанных на словенском и российском языках от начала заведения типографий до 1813 года. Ч. 1. Спб., 1813. CII, 313 с.

С. XLIX, XCIII: Пра дзейнасць Ф. Скарыны. С. 9—19, 25—45, 119—120, 183—184: Апісанне выданняў Ф. Скарыны — № 72 (Апостал 1525 г.), № 108 (Біблія 1517—1519 гг.), № 517 (Акафісты і Каноны), № 930 (Псалтыр каля 1522 г.). С. 280—283: Экземпляр Пяцікніжжа з Бібліятэкі Акадэміі навук у Пецярбургу.

Тое ж. Рэд., заўв. і ўказ. В. Н. Рагожына. Спб., 1904.

Рэц.: Кеппен П. И. Библиографические листы. 1825. № 3. Стб. 33—40.— Аўтар не ўказаны.

Слуп. 35—36: Пра памылкі В. Сопікава ў апісанні кніг Ф. Скарыны.

33. **Townley J.** Biblical Anecdotes, illustrative of the History of the Sacred Scriptures, and of the Early Translations of them into Various Languages. London, 1813.

С. 111—112: Пра пераклады Ф. Скарыны.

### 1814

34. **Dobrowsky J.** Anhang von der Skorinischen Bibel — Uebersetzung // Dobrowsky J. Slovanka. Zur Kenntniss der alten und neuen slawischen Literatur, der Sprachkunde nach allen Mundarten, der Geschichte und Alterthümer. Prag, 1814. S. 153—156.

35. **Dobrowsky J.** Bibel—Uebersetzungen in Slawischen Mundarten // Dobrowsky J. Slovanka. Zur Kenntniss der alten und neuen slawischen Literatur, der Sprachkunde nach allen Mundarten, der Geschichte und Alterthümer. Prag, 1814. S. 136—152.

С. 147: Пра Біблію ў перакладзе Ф. Скарыны.

### 1815

36. **Bandtkie J. S.** Historya drukarń Krakowskich od zaprowadzenia druków do tego miasta aż do czasów naszych, wiadomoscią o wynalezieniu sztuki drukarskiey poprzedzona. Kraków, 1815. 504, [10] s.

С. 124—125: Пра Ф. Скарыну.

37. **Dobrowsky J.** Jeremia Klaglieder, von Franz Skorina in Russische übersetzt // Dobrowsky J. Slowanka. Zur Kenntniss der alten und neuen slawischen Literatur, der Sprachkunde nach allen Mundarten, der Geschichte und Alterthümer. Zweite Lieferung. Prag, 1815. S. 149—152.

38. **Linde S. B.** O literaturze rossyjskiej podług dzieła bibliograficznego Sopikowa // Pamiętnik Warszawski. 1815. T. 2. S. 411—428; T. 3. S. 14—34, 133—150, 227—298; 1816. T. 4. S. 3—21, 285—296; T. 5. S. 3—21, 125—144.

У тым ліку пра Ф. Скарыну.

## 1816

39. **Калайдович К. Ф.** О российской литературе, статья Самуила Богумила Линде, ректора Варшавского лицея // Вестн. Европы. 1816. Ч. 90, № 22. С. 110—136; № 23—24. С. 230—244.— Подпіс: К.

С. 132—133, 240, 243: Пра выданні Ф. Скарыны.

40. **Карамзин Н. М.** История государства Российского. Т. 1. Спб., 1816. XXV, 254, 220, [8] с., вкл.

С. 213—216 [2 лік]: Пра Біблію ў перакладзе Ф. Скарыны; параўнанне тэкстаў Скарыны са славянскай Бібліяй.

Тое ж. 2-е изд., испр. Спб., 1818. С. 213—216 (2 лік).

Тое ж. 3-е изд. Спб., 1830. С. 498—500.

Тое ж. 4-е изд. Спб., 1833. С. 147—149 (2 лік).

Тое ж. 6-е изд. Спб., 1851. С. 249—252.

41. **Linde S. B.** O Statucie Litewskim ruskim językiem i drukiem wydanym wiadomość. Warszawa, 1816. [22], 218, [6] s.

С. 11: Пра ліст з Акафістаў Ф. Скарыны, прысланы С. Ліндэ Ё. Добраўскім.

## 1818

42. **Болховитинов Е. А.** Иоанн Федоров // Болховитинов Е. А. Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина греко-российской церкви. Спб., 1818. Ч. 1. С. 273—302.— Аўтар не ўказаны.

С. 274: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. 2-е изд., испр. и умнож. Спб., 1827. С. 260—286.

С. 261—262: Пра Ф. Скарыну.

43. **Оленин А. А.** Отчет в управлении императорской Публичною библиотекою за 1817 г. Спб., 1818. 184 с.; 4 л. табл.— Аўтар не ўказаны.

С. 63: Экземпляр Акафістаў і Канонаў з Малой падарожнай кніжкі Ф. Скарыны, які трапіў у бібліятэку ў складзе калекцыі П. К. Фралова.

44. **Dobrowsky J.** Geschichte der böhmischen Sprache und älteren Literatur. Prag, 1818. [14], 408 S.

С. 324: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. На чэш. мове. Dějiny českě řeči a literatury v redakcich z roku 1791, 1792 a 1818. Praha, 1936. S. 391—392.

Тое ж. Dějiny českě řeči a literatury. Praha, 1951.

## 1819

45. **Pierwsze** posiedzenie publiczne Oddziału Wileńskiego Rossyjskiego Towarzystwa Biblijnego w Wilnie. Wilno, 1819. 50 s.

С. 18—20: Пра выданні Ф. Скарыны (у прадмове А. Марціноўскага).

1820

46. **Dobrowsky J.** Vorrede. Literatur der Russischen Sprachlehren // Puchmayer A. J. Lehrgebäude der Russischen Sprache: (Nach dem Lehrgebäude der böhm[ischen] Sprache des Hrn. Abbé Dobrowsky). Prag, 1820. S. IX—XLI.

С. XII: Пра выданні Ф. Скарыны.

Тое ж. Dobrowsky J. Spisy a projevy. Praha, 1936. Bd. 7. S. 391—392.

1821

47. **Болховитинов Е. А.** Франциск Скорина // Сын отечества. 1821. Ч. 21, № 30. С. 169—172.— Без подпісу.

48. **Ebert F. A.** Allgemeines bibliographisches Lexikon. Bd. 1. Leipzig, 1821. XVIII, [8], 1076 S.

С. 190, № 2353: Аб экземпляры пражскай Біблії са збору Маскоўскага архіва Міністэрства замежных спраў.

1822

49. **Греч Н.** Опыт краткой истории русской литературы. Спб., 1822. VI, 391 с.

С. 68—69, 356—358: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. На польск. мове. Grecz M. Rys historyczny literatury rosyjskiej, z rosyjskiego przez Samuela Bogumila Linde. Z dodatkami z Batiuszkowa, Bestużewa, Bułharyna, Kaczenowskiego, Karamzina, Köppena, Korniłowicza, Wiaziemskiego. Warszawa, 1823.

50. **Калайдович К. Ф.** О белорусском наречии // Сочинения в прозе и стихах: Труды О-ва любителей рос. словесности при имп. Моск. ун-те. 1822. Ч. 1. С. 67—80.

С. 68—69: Пра мову выданняў Ф. Скарыны.

51. **Dobrowsky J.** Institutiones linguae slavicae dialecti veteris quae quum apud Russos, Serbos aliosque ritus Graeci, tum apud Dalmatas glagolitas ritus latini slavos in libris sacris obtinet. Vindobonae, 1822. LXIII, 720, 2 p.

С. XLV—XLVI: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. Ed. 2 pretio viliori parabilis. Vindobonae, 1852. P. XVI, XLV—XLVI.

Тое ж. На рус. мове. Добровский И. Грамматика языка славянского по древнему наречию. Ч. 1 / Пер. с лат. М. Погодина. Спб., 1833. С. XVI—XVII, XLIX—XL.

1823

52. **Lelewel J.** Bibliograficznych ksiąg dwoje w których rozebrane i pomnożone zostały dwa dzieła J. S. Bandtkie. T. 1. Wilno, 1823. 280 s., 5 ark. il.

С. 47, 48, 52, 53, 189: Пра Ф. Скарыну і яго выданні.

Тое ж. Wilno, 1826. T. 2. 435 s.

Тое ж. [Факс. выд.]. Warszawa, 1927.

Табл. XI: Рэпрадукцыі арнаментыкі і шрыфту пражскіх і віленскіх выданняў Ф. Скарыны.

## 1825

53. **Калайдович К. Ф., Строев П. М.** Обстоятельное описание славяно-российских рукописей, хранящихся в Москве в библиотеке... графа Федора Андреевича Толстова. М., 1825. IXVII, [2], 811, [6] с.

С. 30—32: Рукапісная копія асобных кніг Бібліі Ф. Скарыны, зробленая В. Жугаевічам у 1568 г. С. 268: Рукапісная копія XVI ст. чатырох Кніг Царстваў Ф. Скарыны. С. 428—429: Рукапісная копія XVI ст. асобных кніг Бібліі Ф. Скарыны.

Рэц.: Кеппен П. И. // Библиографические листы. 1825. № 19. Стб. 261—276.— Аўтар не ўказаны.

Слуп. 267: Пра рукапісны Стары запавет, блізкі па рэдакцыі да выдання Ф. Скарыны, у Варшаўскай нацыянальнай бібліятэцы. Слуп. 274: Пра спіс В. Жугаевіча, які скапіраваў выданне Ф. Скарыны.

54. **Кеппен П. И.** Дополнения и поправки к хронологической росписи первопечатным словенским книгам // Библиографические листы. 1825. № 39. Стб. 575—580.

Слуп. 577. № 62: Пра пераклад Бібліі Ф. Скарыны з Вульгаты. № 86: Пра экземпляр Апостала ў зборы Ф. Талстога. № 87: Пра экземпляр Канoніка Ф. Скарыны ў зборы Ф. Талстога.

55. **Кеппен П. И.** Записка о путешествии по славянским землям и архивам // Библиографические листы. 1825. № 33. Стб. 474—489; № 34. Стб. 490—495.— Аўтар не ўказаны.

Слуп. 482: Пра экземпляр Малой падарожнай кніжкі Ф. Скарыны ў зборы Маннерта ў Ландсгуце (Баварыя).

56. **Кеппен П. И.** О первопечатных и других редких книгах // Библиографические листы. 1825. № 31. Стб. 448—453.— Аўтар не ўказаны.

57. **Кеппен П. И.** Хронологическая роспись первопечатным словенским книгам // Библиографические листы. 1825. № 1. Стб. 1—8. С. 9—12; № 6. С. 76—84; № 11. С. 148—156; № 16. С. 220—228; № 21. С. 292—300.

Слуп. 8: Пра мову выданняў Ф. Скарыны. С. 79—84: Выданні Ф. Скарыны — № 62 (Кніга Іова), № 63 (Кніга Руф), № 64 (Прытчы Саламона), № 65 (Кніга Ісуса Сірахава), № 67 (Еклесіяст), № 68 (Кніга Песні песням), № 69 (Кніга Прамудрасці божай), № 70 (чатыры Кнігі Царстваў), № 71 (Кніга Ісуса Навіна), № 76 (Пяцікніжжа), № 77 (Кніга Суддзяў), № 78 (Кніга Юдзіф), № 79 (Кніга Плач Ерамііі), № 80 (Кніга Эсфір), № 81

(Кніга Прарока Даніїла), № 86 (Апостал), № 87 (Псалтыр, Часасловец, Акафіснік, Шасцідневец, Святцы і Пасхалія).

58. [**Пра выданні** ў Астрозе Бібліі з выкарыстаннем перакладу Ф. Скарыны] // Библиографические листы. 1825. № 41. Стб. 613.

## 1826

59. **Bandtkie J. S.** Historia drukarń w Królestwie Polskim i Wielkim Xięstwie Litewskim, jako i w krajach zagranicznych, w których polskie dzieła wychodziły.

T. 2. Kraków, 1826. 352 s.

С. 257—259: Пра друкарню Ф. Скарыны ў Вільні.

T. 3. Kraków, 1826. 299 s.

С. 164—165: Пра Біблію Ф. Скарыны.

Тое ж. [Факс. выд.]. Warszawa, 1974.

60. **Henderson E.** Biblical researches and travels in Russia; including a tour in the Crimea and the passage of the Caucasus. London, 1826. XII, 538 p., 8 l. il.

С. 103—111: Пра выданні Ф. Скарыны.

61. **Schaffarik P. J.** Geschichte der slawischen Sprache und Literatur nach allen Mundarten. Ofen, 1826. XII, 524 S.

С. 156, 178: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. 2 Abdruck. Prag, 1869. S. 156, 178.

Тое ж. На славацк. мове. Safarik P. J. Dejiny slovanského jazyka a literatúry všetkich nárečí. Bratislava, 1963. 601 s.

## 1829

62. **Строев П. М.** Обстоятельное описание старопечатных книг славянских и российских, хранящихся в библиотеке тайного советника, сенатора, двора его императорского величества камергера и кавалера графа Федора Андреевича Толстова. М., 1829. XXIV, 593 с.

С. XIII: Пра пражскую і віленскую друкарні Ф. Скарыны. С. 6—23: Выданні Ф. Скарыны — № 5—11 (Біблія 1517—1519 гг.), № 12 (Апостал 1525 г.), № 13 (Акафісты і Каноны).

63. **Строев П. М.** Палеографические снимки шрифтов с XV века по XVIII (числом 24), принадлежащие к обстоятельному описанию старопечатных книг славянских и российских, хранящихся в библиотеке графа Федора Андреевича Толстова. М., 1829. IV с. XI табл.— Аўтар не ўказаны.

На вокл.: Палеографические снимки почерков с XV века по XVIII. М., 1829.

Табл. IV, № 5, 6: Рэпрадукцыя тытульнага ліста Еклесіяста і інш. Табл. V, № 7, 8: Рэпрадукцыя тытульнага ліста Апостала 1525 г. і паласы з Акафісніка.

64. **Powstański A.** Uwagi odnoszące się do bibliografji Statutu Litewskiego. Wilno, 1829. 227 s.

Згадкі пра Ф. Скарыну.

65. **Schaffarik P. J.** Übersicht der slowenischen Kirchenbücher, welche vom Ende des fünfzehnten bis zum Anfange des siebzehnten Jahrhunderts in Venedig, Serbien, Walachien und Siebenbürgen in Druck erschienen sind // Jahrbücher der Literatur. Bd. 48. Anzeige — Blatt für Wissenschaft und Kunst. N ZLVIII. Wien, 1829. S. 1—35.

### 1830

66. **Бандтке Е. С.** История государства Польского. Т. 2. Спб., 1830.

С. 107: Пра друкарню Ф. Скарыны ў Вільні.

67. **Снегирев И. М.** Дополнение к статье IX // Труды и летописи О-ва истории и древностей российских. 1830. Ч. 5, кн. 1. С. 306—309.— Подпіс: И. С.

Пра партрэт Ф. Скарыны (дададзена рэпрадукцыя, гравіраваная А. Флоравым). Пра экземпляр Бібліі 1517—1519 гг. у Пецярбургскай публічнай бібліятэцы, Маскоўскім архіве Міністэрства замежных спраў, Маскоўскай духоўнай акадэміі, Маскоўскай сінадальнай друкарні, Спаса-Яўхім'евым манастыры, Варшаўскай нацыянальнай бібліятэцы, а таксама ў зборах М. П. Румянцава, Ф. А. Талстога, І. М. Царскага, прафесара Маннерта ў Ландсгуце і інш.

### 1832

68. **Соколов П. И.** Каталог обстоятельный книгам богословским церковной и гражданской печати, находящимся в 1-м отделении Библиотеки императорской Академии наук... Спб., 1832. 4, 81, XXXVIII, IV с.

С. 14, № 1: Біблія Ф. Скарыны.

### 1833

69. **Реестр** старопечатных славянских книг, находящихся в библиотеке А. С. Ширяева. М., 1833. 2, 162, 34 с., 2 л. факс.

С. 2: Кніга Суддзяў, Кніга Ісуса Навіна і Еклесіяст Ф. Скарыны. С. 4: Псалтыр каля 1525 г.

### 1834

70. **Lewicki J.** Grammatik der ruthenischen oder kleinrussischen Sprache in Galizien. Przemyśl, 1834. XXVI, 59, [II] S.

С. XII—XIII, 7—12: Пра Ф. Скарыну.

### 1835

71. **Bandtkie J. S.** Dzieje narodu Polskiego. T. 2. Wrocław, 1835. 402 s.

С. 103: Пра друкарню Ф. Скарыны ў Вільні.

## 1836

72. **Строев П. М.** Описание старопечатных книг славянских, находящихся в библиотеке московского первой гильдии купца и Общества истории и древностей российских благотворителя Ивана Никитича Царского. М., 1836. VIII, 454 с.

С. IV: Пра Ф. Скарыну і яго выданні. С. 3—4, № 5—9: Біблія 1517—1519 гг.

73. **Строев П. М.** Палеографические снимки шрифтов (числом 12), принадлежащие к описанию старопечатных книг славянских, находящихся в библиотеке И. Н. Царского. М., 1836. [4] с., 9 табл.— Аўтар не ўказаны.

Табл. 3, № 4: Рэпрадукцыя партрэта Ф. Скарыны (манаграма «Гр. Ал. Фл.»).

## 1837

74. **Головацкий Я.** Коротка ведомость о рукописах славянских и русских, находящихся в книжници Монастиря св. Василия Вел[икого] у Львове // Русалка Днестровая. Ruthenische Volkslieder. Будим, 1837. С. 122—129.— Подпіс: Ярослав Готовацкий.

С. 122: Біблія 1576 г. [магчыма, спіс Бібліі Ф. Скарыны].

Тое ж. Русалка Дністрова: (Фотакопія з видання 1837 р.) / Вступна стаття О. І. Білецкого. Київ, 1972. С. 122.

75. **Новицкий О. М.** О первоначальном переводе Священного писания на славянский язык. Киев, 1837. 81 с.

С. 6, 10, 11, 15: Пра пераклад Бібліі Ф. Скарыны.

76. **Языков Д. И.** Белорусский или руський язык // Энциклопедический лексикон Плюшара. Спб., 1837. Т. 8. С. 568—569.— Подпіс: Яз.

С. 568: Пра мову Ф. Скарыны.

77. **Baliński M.** Historia miasta Wilna. T. 2. Zawierający dzieje miasta Wilna od początku rządów Świdrylajły do śmierci Stefana Batorego, czyli od 1430—1586 roku. Wilno, 1837. 290 s.; 5 l. il.

С. 87: Пра друкарню Ф. Скарыны ў Вільні.

## 1838

78. **Сахаров И. П.** Первые русские типографщики // Сборник на 1838 г. Спб., 1838. С. 1—10.

С. 1: Згадка пра віленскую друкарню.

79. **Чертков А. Д.** Всеобщая библиотека России, или каталог книг для изучения нашего отечества во всех отношениях и подробностях. М., 1838. 2, XII, 631 с.— Аўтар не ўказаны.

С. 453: Выданні Ф. Скарыны — № 1 (Каноны, Акафісты і Часословец), № 2 (Шасцідневец).

## 1839

80. **Kopitar B.** Hessychii glossographi discipulis et epiglossistis russus, in ipsa Constantinopoli sec. XII—XIII e codice Vindobonensi graecorussica omnia... Vindobonae, 1839. XXIV, 72 p.
С. 33—34: Пра Ф. Скарыну.

## 1840

81. **Роспись** книгам и рукописям императорской Российской Академии. Спб., 1840. 2, 160 с.
С. 2, 4: Выданні Ф. Скарыны — № 21 (Біблія), № 55 (Псалтыр 1525 г.).

## 1841

82. **Kompaniewicz B.** Primus Truber oraz wiadomości o niektórych drukarniach słowiańskich i dziełach tamże wydanych // Pamiętniki historyczne krajowe. Lwów, 1841.
С. 109—146: Пра Ф. Скарыну.
83. **Niesiecki K.** Herbarz Polski. Wydany przez J. N. Bobrowicza. T. 8. Lipsk, 1841. 652 s.
С. 388: Згадкі пра Н. Скарыну (1740 г.) і М. Скарыну (1788 г.).

## 1842

84. **Востоков А.** Описание русских и словенских рукописей Румянцевского Музеума. Спб., 1842. (2), IV, 899, 3 с.
С. 20—21: Спіс XVII ст. асобных кніг з Біблії Ф. Скарыны.
85. **Сахаров И. П.** Хронологическая роспись русской библиографии с 1491 до 1700 года // Сахаров И. П. Русские древние памятники. Спб., 1842. Вып. 1. С. [9—22].
С. [16]: Пра работы, прысвечаныя Ф. Скарыне (гл. № 14 і 15). С. [19]: Выданні Ф. Скарыны з указаннем месцазнаходжання экземпляраў, якія захаваліся.
86. **Jocher A.** Obraz bibliographiczno-historyczny literatury i nauk w Polsce, od wprowadzenia do niej druku po rok 1830 włącznie. T. 2. Wilno, 1842. XVI, 687 s.
С. 10—11, 19, 101—103, 136: Выданні Ф. Скарыны — № 2279 (Біблія 1517—1519 гг.), № 2350 (Апостал 1525 г.), № 2351 (Псалтыр каля 1525 г.).
87. **Kraszewski J. I.** Wilno od początków jego do roku 1750. T. 4. Wilno, 1842. XVI, 408 s.
С. 62: Пра друкарню Ф. Скарыны ў Вільні. С. 115—116: Выданні Ф. Скарыны — Апостал 1519 г. (паводле Бакмейстэра), Апостал 1522 г. (паводле Бандке), Апостал 1525 г., Канонік або Акафіснік 1525 г. і Псалтыр з Часасloўцам 1525 г.

## 1844

88. **Погодин М. П.** Об археологических собраниях пр. Погодина // Москвитянин. 1844. Ч. 3, № 5. С. 169—176.— Подпіс: М. П.

С. 174: «Список Скорининой Библии, в ней заключаются все Пророки, не известные доселе в ученом мире».

## 1845

89. **Болховитинов Е. А.** Скорина (Францыск) // Болховитинов Е. А. Словарь русских светских писателей, соотечественников и чужестранцев, писавших в России. М., 1845. Т. 2. С. 169—171.— Подпіс: Митрополит Евгений.

90. **Чертков А. Д.** Всеобщая библиотека России или каталог для изучения нашего отечества во всех отношениях и подробностях. Прибавление второе. М., 1845. 573 с. На обл.: 1844.— Аўтар не ўказаны.

С. 455: Каноны. Вільня, 1525.

## 1846

91. **Медведев С.** Оглавление книг, кто их сложил. В статье: Ундольский В. М. Сильвестр Медведев, отец славяно-русской библиографии // Чтения в имп. О-ве истории и древностей рос., 1846. № 3, отд. 4. С. I—XXX, I — 190.

С. 7: Выданні Ф. Скарыны.

## 1847

92. **Гумилевский Д. Г.** [Філарэт]. История русской церкви. Т. 1. Период третий. М., 1847. 262 с.— Подпіс: Е. Р. Ф.

С. 67, 68: Пра Біблію ў перакладзе Ф. Скарыны, пра віленскія выданні.

Тое ж. 2-е изд. М., 1851. С. 71—72.

Тое ж. 3-е изд. М., 1857. С. 51—52.

Тое ж. 4-е изд. Чернигов, 1862. С. 51—52.

Тое ж. 5-е изд. М., 1888. С. 74—75.

Тое ж. 6-е изд. М., 1894. С. 344—345.

Тое ж. На ням. мове. Philaret. Geschichte der Kirche Russlands. Frankfurt a. M., 1872. 1 Th. S. 271.

93. **Погодин М. П.** О приобретениях на Нижегородской ярмарке // Москвитянин. 1847. Ч. 3. С. 120—122.

Пра Акафісты Ф. Скарыны, набытыя ў Зубава; пра спіс Кнігі Пракарокаў з невядомага выдання Ф. Скарыны.

94. **Ундольский В. М.** Опись книгам, взятым в Патриаршую ризную казну, составленная в 1575 г. монахом Евфимием и иеродиаконом Иакинфом, и роспись книг, взятых в патриарший раз-

ряд и переданных в книгохранительницу // Чтения в имп. О-ве истории и древностей рос. 1847. № 5, IV. Смесь. С. 1—11, 1—20.

С. 12, № 361: «Книга Царств, переведена с немецкого языка, печатная белорусская, Францышка Скорины».

95. **Březan V.** Žiwot Vilema z Rosenberka. Praha, 1847. VIII, 327 s. (Staroceske Bibliotheka. Č. 2).

С. 227: Пра Ф. Скарыну.

## 1848

96. **Строев П. М.** Рукописи славянские и российские, принадлежащие почетному гражданину и Археографической комиссии корреспонденту Ивану Никитичу Царскому. М., 1848. V, [1], 916, [2] с.

С. 577: Тэкст «О Скорининых книгах, новопечатных Полоцких» у зборніку XVIII ст. С. 759: Кнігі Быцця: Зыход і Левіт у новым спісе (магчыма, з перакладу Ф. Скарыны).

97. **Ундольский В. М.** Каталог славяно-русских книг церковной печати библиотеки А. И. Кастерина // Чтения в имп. О-ве истории и древностей рос. 1848. С. VIII, 97—141, V.

С. 1: Выданні Ф. Скарыны — № 4 (Біблія 1517—1519 гг.), № 5 (Апостал 1525 г.), № 6 (Акафісты і Каноны каля 1525 г.).

Тое ж. [Мініяцюрнае выданне]. М., 1848. XVI, 199 с.

С. 3—4: Выданні Ф. Скарыны — № 4 (Біблія 1517—1519 гг.), № 5 (Апостал 1525 г.), № 6 (Акафісты і Каноны каля 1525 г.).

## 1849

98. **Максимович М. А.** Книжная старина южно-русская. I. Начало книгопечатания в южной Руси. II. Книгопечатание на Волыни. III. Книгопечатание во Львове // Временник имп. О-ва истории и древностей рос. 1849. Кн. 1. Смесь. С. 1—12; Кн. 4. Смесь. С. 1—12.

С. 2—3: Пра друкарню Ф. Скарыны.

Тое ж. Асобны адб. [М., 1850].— 12, 12, 24 с., 4 л. ил.

Тое ж. // Максимович М. А. Собр. соч. Киев, 1880. Т. 3. С. 661—716.

99. **Погодин М. П.** Письмо из Нижнего Новгорода // Москвитянин. **1849.** Ч. 5, № 19. С. 40—41.— Подпіс: М. П.

Пра экземпляр Акафістаў з Малой падарожнай кніжкі, набыты ў 1847 г. М. П. Пагодзіным у Ніжнім Ноўгарадзе ў М. Зубава.

100. **Сахаров И. П.** Обозрение славяно-русской библиографии. Т. 1, кн. 2. Хронологическая роспись славяно-русской библиографии. Спб., 1849. 2, VIII, 148 с.— Аўтар не ўказаны.

С. 4.—8: Выданні Ф. Скарыны — № 4 (Біблія 1517—1519 гг.), № 13 (Апостал 1525 г.), № 14 (Псалтыр, Акафіснік, Часасловец, Шасцідневец, Каноны, Кароткія святцы і Пасхалія).

101. **Kucharski A.** Krótka wiadomość o drukowanych przekładach całej Biblii na różne dyalekty słowiańskie // Biblioteka Warszawska. 1849. T. 4. S. 409—419.

С. 411: Пра Ф. Скарыну.

102. **Statuta** nec non liber promotionum philosophorum ordinis in Universitate Studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Ed. J. Muczkowski. Cracoviae, 1849. 19, CCXL. 562 p.

С. 144: Запіс у прамацыйнай кнізе філасофскага факультэта Кракаўскага універсітэта пра атрыманне ступені бакалаўра «Францыскам з Полацка, Ліцвінам».

## 1851

103. **Wiszniewski M.** Historyja literatury polskiej. T. 8. Kraków, 1851. IV, 504 s.

С. 407, 460—480: Пра Ф. Скарыну і яго выданні. С. 475—476: Пра пражскае [?] выданне Акафістаў.

## 1852

104. **Бычков А. Ф.** О приобретении в казну Древлехранилища профессора Погодина // Сев. пчела. 1852. № 198; Санктпетербургские ведомости. 1852. № 199; Журн. М-ва нар. просвещения. 1852. Ч. 75, отд. 7. С. 95—100.

У тым ліку пра выданні Ф. Скарыны.

105. **Hanka V.** Českie prvotisky // Časopis Českého museum. 1852. Sv. 3. S. 109—126; Sv. 4. S. 62—111.

С. 109—110: Апісанне пражскіх выданняў Ф. Скарыны.

## 1853

106. **Hanka V.** Bibliografie prvotiskův českých od 1468 až do 1526 leta. Praha, 1853. 66 s.

С. 65: Апісанне пражскіх выданняў Ф. Скарыны.

107. **Maciejewski W. A.** Piśmiennictwo polskie od czasów najdawniejszych aż do roku 1830. T. 2. Warszawa, 1853. II, 986 s.

С. 881—883: Пра Ф. Скарыну і яго выданні.

## 1854

108. **Lelewel J.** Album rytownika polskiego. Poznań, 1854, 12, [8] s., 41 ark. il.— Аўтар не ўказаны.

Рэпрадукцыя табліцы, што не ўвайшла ў «Дзве бібліяграфічныя кнігі» І. Лелевеля, з рэпрадукцыямі арнаментыкі і шрыфта выданняў Ф. Скарыны.

## 1855

109. **Горский А. В.,** Невоструев К. И. Описание славянских рукописей Московской Синодальной библиотеки. Отд. I. Священное писание. М., 1855. [2], XIV, 342 с.

С. 2—3, 163: Параўнанне тэкстаў рукапісных біблій з выданнямі Ф. Скарыны.

110. **Скорина (Франциск)** // Справ. энцикл. словарь. Спб., 1855. Т. 9, ч. 2. С. 457.

## 1856

111. **Гумилевский Д. Г.** Обзор русской духовной литературы // Учен. зап. 2-го отд-ния имп. Акад. наук. 1856. Кн. 3. С. 1—267.— Подпіс: Епископ Филарет.

С. 129—130: Пра Ф. Скарыну.

Тое ж. Асобны адб. Спб., 1857. С. 129—130.

Тое ж. 3-е изд., доп. Спб., 1884. С. 138.

112. **Пыпин А. Н.** Материалы для славянской палеографии: Из «Описания Румянцевского музея» // Учен. зап. 2-го отд-ния имп. Акад. наук. 1856. Кн. 2, вып. 2. С. 3—58.

С. 22: Спіс Старога запавету 1537 г. са слядамі ўплыву Бібліі Ф. Скарыны. С. 47—49: Спіс XVII ст. Бібліі ў перакладзе Ф. Скарыны.

## 1857

113. **Отчет** императорской Публичной библиотеки за 1856 год. Спб., 1857. 136 с.

С. 25—26: Выданні Ф. Скарыны на выстаўцы твораў царкоўнаславянскага кнігадрукавання — экземпляр Бібліі 1517—1519 гг., «составленный из двух экземпляров, находившихся в собраниях графа Толстого и Кастерина», Апостал 1525 г. і Каноны.

## 1858

114. **Алфавитный** указатель славянских рукописей Московской Синодальной библиотеки. М., 1858. 128 с.

С. 81: Пра Ф. Скарыну.

115. **Геннади Г. Н.** Сведения о русских библиографах, библиофилах, типографах и книгопродавцах // Литература русской библиографии: Опись библиогр. книг и статей, изданных в России / Сост. Гр. Геннади. Спб., 1858. С. 159—164.

С. 162: Францыск Скарына (№ 758).

116. **Грамота** Сигизмунда I, освобождающая Франциску Скорину от судебного преследования за долги родного его брата Ивана Скорины. Дана в Кракове в 1532 г. 5 января // Собрание

государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений (от 1387 до 1710 года), изданное Виленской археологической комиссией под ред. ученого секретаря М. Круповича. Вильна, 1858. Ч. 1. С. 36—37.

117. **Привилегия** Сигизмунда I, освобождающая Юрия Франциска Скорину из-под власти обыкновенного суда, а также воевод, кастелянов и старост. Дана в Кракове 1532 г. 21 ноября // Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений (от 1387 до 1710 года), изданное Виленской археологической комиссией под ред. ученого секретаря М. Круповича. Вильна, 1858. Ч. 1. С. 35—36.

118. **Савва,** архим. Указатель для обозрения Моск. патриаршей (ныне Синедальной) библиотеки. М., 1858. [4], VIII, 292, 40, IV, [2] с.

С. 233—234: 10 глаў з першай Кнігі Царстваў у перакладзе Ф. Скарыны і з яго прадмовай у рукапісным зборніку XVII ст.

119. **Стасов В. В.** Разбор рукописного сочинения Д. А. Ровинского «Обозрение русского гравирования на металле и на дереве до 1725 года» // Отчет о втором присуждении наград графа Уварова 15 сентября 1858 г. Спб., 1858. С. 1—72.

С. 23: Пра гравюры выданняў Ф. Скарыны.

Тое ж. Асобны адб. [Спб., 1858]. 72 с.

Тое ж // Стасов В. В. Собр. соч. 1847—1886. Спб., 1894. Т. 2. Стб. 40.

## 1861

120. **Буслаев Ф. И.** Историческая хрестоматия церковнославянского и древнерусского языков. М., 1861. 6, 11 с., 1632 стб., VIII с.

С. 197—206: Урыўкі з Бібліі Ф. Скарыны [з каментарыем].

121. **Каратаев И. П.** Хронологическая роспись славянских книг, напечатанных кирилловскими буквами. 1491—1730. Спб., 1861. XX, (4), 228 с.

С. 3: Выданні Ф. Скарыны — № 11 (Біблія 1517—1519 гг.), № 14 (Апостал 1525 г.).

Тое ж. Факс. выд. [Нови Сад], 1973.

122. **Отчет** императорской Публичной библиотеки за 1860 г. Спб., 1861. 109, 5 с.

С. 26: Экземпляр Апостала 1525 г. з бібліятэкі Генеральнага штаба.

## 1862

123. **Пекарский П.** Наука и литература в России при Петре Великом. Т. 2. Описание славяно-русских книг и типографий 1698—1725 годов. Спб., 1862. (6), 692. XXV с.

С. 5—6: Пра Акафісты і Каноны Ф. Скарыны паводле экземпляра Публічнай бібліятэкі.

124. **Fiedler J.** Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte // Sitzungsberichte der Keiserlichen Akademie der Wissenschaften. Philosophisch-Historische Classe. 1862. Bd. 40, H. 1. S. 27—123.

С. 56: Інструкцыя польскаму паслу пры папскім троне са згадкай пра Біблію на «рускай мове», надрукаваную ў Польшчы і спаленую ў Маскве.

### 1863

125. **Добротворский А.** Загоровский монастырь, его библиотека и сохранившийся в ней западнорусский литературный памятник XVII-го столетия // Вестн. Юго-Западной и Западной России. 1863. Т. 1, июль. Отд. 2. С. 1—17; авг. Отд. 2. С. 77—115; сент. Отд. 2. С. 165—196.

С. 175—177: Пра мову выданняў Ф. Скарыны.

126. **Максимович М. А.** О скорининых книгах печатных полоцких // Православное собеседование. 1863. № 1. С. 569—571.

### 1864

127. **Исаков Н. В.** Отчет по Московскому публичному музею от времени основания его до 1 января 1864 г. Спб., 1864. 178 с., 2 л. табл.— Аўтар не ўказаны.

С. 31: Біблія Ф. Скарыны ў зборы Н. П. Румянцава.

128. **Полуденский М.** Описание патриаршей библиотеки. 1718 год. М., 1864. 48 стб. (Дадатак да «Рус. архива»).

Слуп. 22, № 340: «Царств, книга в полдесть, печатная, славянским языком, в Польше, по рождестве Христове 1518 году и того 199 лет».

129. **Стасов В. В.** Разбор рукописного сочинения г. Ровинского «Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии художеств» // Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова 25 сентября 1864 года. Спб., 1864. С. 13—55.

С. 30—32, 35, 37—39: Пра гравюры ў выданнях Ф. Скарыны.

Тое ж. Стасов В. В. Собр. соч. 1847—1886. Спб., 1899. Т. 2. Стб. 163—165, 169—171, 174, 1036.

130. **Толль Ф. Г.** Скорина Франциск // Толль Ф. Настольный словарь по всем отраслям знания. Спб., 1864. Т. 3. С. 474.

Гл. таксама: Необходимое дополнительное приложение до настольного словаря Ф. Толля. Спб., 1866. С. 466.

131. **Ханенко А.** По поводу статьи Гатцука об общерусском наречии // День. 1864. № 42.

У тым ліку пра мову выданняў Ф. Скарыны.

### 1865

132. **Головацкий Я. Ф.** Несколько слов о Библии Скорины и о рукописной русской Библии из XVI столетия, обретающейся

